# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. Субота, 3 верасня 1994 года №93 (10793) Цана 30 руб.


## КАДРЫ І СЁННЯ ВЫРАШАЮЦЬ УСЁ

Здаецца, лозунг "Уся ўлада - Саветам!" для Беларусі па-ранейшаму актуальны. Паколькі сістэма Саветаў застаецца ў законапраекце аб мясцовай уладзе, які, відаць, будзе разглядацца на маючай адбыцца сесіі, што пачне сваю работу 27 верасня. Аб гэтым паведаміў Міхаіл Сазонаў на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 1 верасня ў Нацыянальным прэс-цэнтры рэспублікі.

Толькі што створанае ў Адміністрацыі Прэзідэнта ўпраўленне па справах тэрыторый якраз і будзе сачыць за эканамічнай, палітычнай і кадравай сітуацыяй на месцах. Падобная структура, паводле яго слоў, ёсць і ў апараце Кабінета Міністраў. Тым не менш, структура Кабінета Міністраў будзе кантраляваць сацыяльна-эканамічную сітуацыю на месцах, а ўпраўленне Адміністрацыі Прэзідэнта адказвае за правядзенне кадравай палітыкі. Так што фарміраванне мясцовых органаў улады ў рэспубліцы будзе знаходзіцца непасрэдна пад кантролем Прэзідэнта рэспублікі. Гэта тлумачыцца тым, што якія б добрыя і перспектыўныя праграмы ні прымаліся, неабходна забяспечыць іх выкананне на месцах. А значыць, мясцовую ўладу павінны прадстаўляць людзі, якія гатовы працаваць перш за ўсё на карысць дзяржавы. Гэты аспект, дарэчы, Міхаіл Сазонаў назваў асноватворным у фарміраванні органаў мясцовай улады. Як было заяўлена на прэс-канферэнцыі, вялікая ўвага ўдзяляецца Прэзідэнтам і яго Адміністрацыяй, акрамя прафесіяналізму, яшчэ і такім якасцям, як прыстойнасць і сумленнасць.

Паводле слоў Сазонава, сёння і выканаўчая, і прадстаўнічая ўлада на месцах існуюць фармальна, фактычна не працуюць. Таму Адміністрацыя Прэзідэнта рыхтуецца да правядзення нарады, на якую будуць запрошаны старшыні абласных і раённых выканаўчых камітэтаў. Яна адбудзецца яшчэ да пачатку сесіі, у другой дэкадзе верасня. Як вядома, рэаліі ў рэспубліцы змяніліся і, мяркуючы па ўсім, пазіцыі кіраўнікоў выканаўчай улады раёна і вобласці будуць неадэкватнымі па многіх пытаннях.

*БЕЛІНФАРМ.*



ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

■ Актуальнае інтэрв"ю

## НАВОШТА КАЛІЙШЧЫКАМ ПОРТ

**Аб праблемах жыцця і дзейнасці салігорскіх шахцёраў вы даведаецеся з гутаркі нашага карэспандэнта з генеральным дырэктарам вытворчага аб"яднання "Беларускалій" П.А.КАЛУГІНЫМ.**

***— Пётр Аляксеевіч, якія перспектывы ў салігорскіх шахцёраў?***

— Магу смела заявіць: добрыя. Галоўная наша бяда — паніжаны попыт на калійныя ўгнаенні. І не толькі на нашы. Сёння магчымасці вытворцаў калію ва ўсім свеце ў два разы большыя, чым патрэбнасці ў іх. Канкурэнцыя жорсткая. Таму прадаць угнаенні — справа даволі складаная. Але ў апошні час назіраецца тэндэнцыя да росту попыту на нашу прадукцыю.

***— І за мяжой?***

— Найбольш зручны, выгадны для нас рынак збыту — краіны Заходняй Еўропы. Але пасля развалу СССР, пакуль урад Беларусі прывыкаў да самастойнасці, хто толькі не гандляваў нашымі ўгнаеннямі! Часцей за ўсё непрафесійна, думаючы толькі аб сённяшняй выгадзе. Пачалі збіваць міжнародныя цэны, уносіць у гандаль каліем беспарадак. Вось у Еўропе і выпрацавалі супраць нас антыдэмпінгавую палітыку, якая фактычна выцесніла беларускіх калійшчыкаў з заходнееўрапейскага рынку.

Кожны квартал вытворцы калію ўсяго свету сустракаюцца, абмяркоўваюць цэны, іншыя праблемы рынку. Наступная, так званая прэзідэнцкая сустрэча, адбудзецца ў Англіі... Цяжка вярнуцца на страчаныя пазіцыі. Усё ж нам сёлета ўдалося на 35 працэнтаў супраць леташняга павялічыць экспарт угнаенняў.

***— У пэўнай ступені і ў выніку таго, што цяпер толькі вы маеце права прадаваць сваю прадукцыю...***

— Безумоўна. Навядзенне парадку ў гандлі дазволіла нам тону ўгнаенняў прадаваць на 10—15 долараў даражэй, чым год-два назад. Да таго ж, мы аб"ядналіся з "Уралкаліем", "Сільвінітам" для правядзення адзінай рыначнай палітыкі. Але і тут нам яшчэ ёсць над чым працаваць. Дакладней — нашаму ўраду. Патрэбна ўвогуле забараніць абмен калійных угнаенняў на розныя тавары, што робіць нашу прадукцыю менш прыбытковай. А сёння 11 беларускіх міністэрстваў пастаўляюць калій па бартэру за мяжу. Разумеем, што трэба нам і замежныя лякарствы, і каўчук, і зерне. Але тут неабходна навесці парадак, каб прадаваць угнаенні за валюту, а на яе купляць усё неабходнае.

***— Апрача Заходняй Еўропы ёсць і блізкае замежжа...***

— У тутэйшых сялян тыя ж праблемы, што і ў беларускіх. Не маюць яны грошай, каб купіць нашу прадукцыю. У іх вострa не хапае азотных і фосфарных угнаенняў, без якіх уносіць калій у вялікіх дозах няма сэнсу. Тым не менш і на гэтым рынку назіраецца ажыўленне. Сёлета чакаецца, што заказы на нашы ўгнаенні з Украіны, Польшчы ўзрастуць супраць мінулагодняга працэнтаў на сорак. За год мы павінны вырабіць 2—2,5 мільёна тон угнаенняў. Гэта больш, чым летась. Хаця ўзроўню 1988 года, напрыклад, калі мы вырабілі 5 мільёнаў 600 тысяч тон тукаў, наўрад ці дасягнём.

***— Для вас абсталяваны некалькі баржаў-рудавозаў. Кажуць, што "Беларускалій" і свой порт хутка займее...***

— Так, мы абсталёўваем порт у Мікашэвічах. І заказалі абсталяваць для перавозкі ўгнаенняў больш дзесятка баржаў. Імі па Прыпяці і будзем сплаўляць на поўдзень сваю прадукцыю. Баржы, калі трэба, могуць выкарыстоўвацца і як склады на вадзе. А то нярэдка нашы ўгнаенні выгружаюцца і захоўваюцца пэўны час пад адкрытым небам, што зніжае іх якасць, а значыць, і даходы. Схему адгрузкі калію па вадзе мы неўзабаве апрабуем. А ў канцы года такім чынам паспрабуем стварыць пэўныя запасы яго ў Аўстрыі.

***— Каб больш-менш нармальна існаваць, многія, нават даволі буйныя, моцныя прадпрыемствы адкрываюць розныя пабочныя вытворчасці.***

— Дзейнічаць так жыццё прымушае і нас. Сёння мы выкарыстаем свае вытворчыя магчымасці толькі працэнтаў на 40. Выходзіць, што ў рудаўпраўленнях многа лішніх рук. Але не будзеш жа выкідваць сваіх людзей на вуліцу... У нас дзейнічае комплекс па перапрацоўцы мяса, плануем вырабляць нават кансервы. Ёсць піўзавод з барам. Ствараем швейную вытворчасць, дзе работу атрымае яшчэ сотня чалавек. А на Трэцім рудаўпраўленні будуецца фабрыка нятканых матэрыялаў.

***— Там жа збіраліся здабываць і кухонную соль?***

— На гэта настройваліся ўсе чатыры нашы рудаўпраўленні. Але вырашылі здабычу, расфасоўку харчовай і кармавой солі сканцэнтраваць на Першым рудаўпраўленні. Далей — час пакажа. Але і сёння ясна, што соль наша карыстаецца попытам не толькі ў Беларусі, а і за мяжой, у прыватнасці, у Прыбалтыцы. У першым паўгоддзі здабылі яе 136 тысяч тон.

***— Як ацэньваеце сітуацыю ў аб"яднанні? Ці можа заўтра раптам успыхнуць чарговая забастоўка?***

— Сітуацыя здавальняючая. Многія людзі добра разумеюць, што не ва ўсіх складанасцях нашага жыцця вінаваты кіраўніцтва "Беларускалія" ці ўрад рэспублікі. Што сёння толькі настойлівая праца дапаможа выйсці з крызісу. Да таго ж, імкнёмся ў рабочым парадку вырашаць канфлікты на вытворчасці, не дапускаць іх абвастрэння. Ды і аб сваіх работніках праяўляем больш клопат. Дзейнічае спецыяльная фірма, якая забяспечвае калійшчыкаў рознымі прамысловымі і харчовымі таварамі. Той жа мясаперапрацоўчы комплекс ці швейная вытворчасць таксама ў першую чаргу на сваіх работнікаў працуюць.

***— Калійшчыкі, і асабліва шахцёры, сёння зарабляюць значна больш, чым работнікі іншых прадпрыемстваў. Гэта і зразумела — праца іх і цяжкая, і небяспечная. Але ці не перашкаджае павелічэнне расходаў на зарплату тэхнічнаму ўзбраенню руднікоў?***

— Цяпер мы менш, чым раней, набываем горнага абсталявання. Але становішча далёка не крытычнае. Вось і сёлета закупілі чатыры малыя комплексы для шахт, набылі многа іншага абсталявання. Іншая справа, што да ўсяго гэтага трэба ставіцца больш беражліва...

І ўсё ж галоўнае — каб у гарнякоў заўсёды было выдатнае здароўе. Каб усе яны пасля кожнай змены ў добрым настроі вярталіся да сваіх сем"яў. Кіраўніцтва ж "Беларускалія" са свайго боку зробіць усё магчымае, каб пажаданне гэтае спраўдзілася...

*Гутарыў Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

## ВОСЕНЬ — РАБОТ ВОСЕМ

*Мяркуючы па ўсім, калгас "Перамога" Старадарожскага раёна апраўд вае сваю назву. Нягледзячы на цяжкасці сёлетняга лета, тут сабралі даволі нядрэнны ўраджай збожжавых — па 30 цэтнераў з гектара. Таму і задаволены старшыня калгаса А.М.Нікановіч атрыманымі вынікамі. Але характар сельскагаспадарчай вытворчасці такі, што адна работа прыспешвае другую. Няма часу перадыхнуць. Зараз у гаспадарцы поўным ходам вядуцца пасляўборачныя работы, рыхтуецца глеба пад будучы ўраджай.*

*НА ЗДЫМКАХ: вадзіцель збожжапагрузчыка Мікалай **Шашок**; механізатар Анатоль **Солушка** і сеяльшчык Анатоль **Яфімаў**; сяўба жыта.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Навіны Чэрвеньшчыны

## БРАТЫ — ГАНАРОВЫЯ ГРАМАДЗЯНЕ

У былога старшыні калгаса «Бальшавік», заслужанага агранома рэспублікі, ганаровага грамадзяніна Чэрвеня Сямёна Маісеевіча Стальмашонка было два браты. Іван Маісеевіч — вядомы хірург, прафесар, заслужаны ўрач рэспублікі. Ён многа зрабіў для развіцця беларускай медыцыны, навукі, выратаваў тысячам людзей жыцці, у свой час зрабіў складаную экстранную аперацыю народнаму паэту Беларусі Янку Купалу. Пры жыцці вядомы медык быў ганаровым грамадзянінам горада Асіповічы.

Другі брат Сямёна Маісеевіча, Іван, — інжынер-будаўнік, кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, актыўны ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны, заслужыў званне ганаровага грамадзяніна г.Навапскоўска Луганскай вобласці. Цяпер жыве ў г.Горкі Магілёўскай вобласці.

Браты Стальмашонкі за працоўныя і баявыя заслугі маюць высокія ўрадавыя ўзнагароды.

## ГІСТОРЫЯ Ў МАНЕТАХ

Шмат гадоў прысвяціў збору і вывучэнню манет розных дзяржаў жыхар Чэрвеня, ветэран педагагічнай працы Вячаслаў Бярнардавіч Мысліцкі. У яго сямейнай калекцыі сотні манет, якія маюць гістарычную цікавасць і каштоўнасць. Яны размеркаваны па перыядах. Так, напрыклад, у калекцыі ветэрана каля двухсот манет народаў свету, стольκі ж — царскай Расіі, каля шасцідзесяці — савецкага перыяду, тры медалі Расіі, шмат юбілейных манет рознай вартасці.

Сваю калекцыю былы педагог выкарыстоўваў на ўроках гісторыі, калі працаваў выкладчыкам у сярэдняй школе № 4 г.Чэрвеня, дэманстраваў шматлікім гасцям і прыхільнікам нумізматыкі. У бліжэйшы час з ёю пазнаёмяцца многія наведвальнікі раённага краязнаўчага музея, дзе В.Б.Мысліцкі цяпер працуе навуковым супрацоўнікам.

## ПАРТЫЗАНСКІ СЦЯГ

Са старажытных часоў вайсковыя сцягі шанаваліся як сімвал салдацкага гонару, доблесці і славы. Сцяг напамінаў кожнаму воіну — ад салдата да генерала — пра іх свяшчэнны абавязак служыць сваёй Радзіме.

У Вялікай Айчыннай вайне палымяныя сцягі вялі наперад і беларускіх партызан. Значная калекцыя іх захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны. Некаторыя належалі партызанскім атрадам і брыгадам, што дзейнічалі ў чэрвеньскіх лясах. Адзін з іх — сцяг атрада імя газеты «Правда».

Цікавы лёс у гэтай гістарычнай рэліквіі. У 1939 годзе за паспяховае выкананне плана па нарыхтоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі Кліноцкаму сельскаму Савету быў уручаны пераходны Чырвоны сцяг Чэрвеньскага райкома партыі і райвыканкома. Калі пачалася вайна, гэты сцяг захаваў у сябе дома Фёдар Самуілавіч Капітулец. Вясной 1942 года быў арганізаваны партызанскі атрад імя газеты «Правда» пад камандаваннем Пятра Іванавіча Іваненкі. Да прыняцця прысягі падрыхтавалі і баявы сцяг. На палотнішчы пераходнага Чырвонага сцяга Кліноцкага сельсавета партызанкі Марыя Казімірская і Алена Бабко вышылі назву атрада. На другім баку мастак А.Шустаў намаляваў партрэты правадыроў.

Пад гэтым сцягам ішлі ў бой чэрвеньскія партызаны, пакуль апошні фашысцкі захопнік не быў выгнаны з роднай зямлі.

## ПРЫЖЫЛАСЯ АЎСТРЫЙСКАЯ ХВОЯ

З канца дзевятнаццатага стагоддзя вядомая на Беларусі чорная аўстрыйская хвоя. Аднак, нягледзячы на старажытнае паходжанне, сустракаецца ў рэспубліцы рэдка. Старыя дрэвы гэтай прыгожай і каштоўнай пароды растуць у парках Глыбоцкага, Бешанковіцкага і Смаргонскага раёнаў. Дзве хвоі пусцілі карані і на тэрыторыі Беларускага завочнага сельскагаспадарчага тэхнікума ў Смілавічах. Яны з"яўляюцца зялёным помнікам прыроды рэспубліканскага значэння.

*Анатоль ФУРЫК.*

## ВЕРАСНЕЎСКІ НОВЫ ГОД

Так пашчасціла, што святкуем мы яго двойчы — у верасні і на сканчэнні года. Верасьнёўскі Новы год — свята школьнікаў і студэнтаў. А так, як адзначаюць яго студэнты адзінай у рэспубліцы ўстановы — універсітэта культуры, бадай, умеюць далёка не ўсе. З выдумкай, з размахам, з гумарам, з добрай усмешкай.

Заклікальныя гукі цымбалаў, вясёлых, заліхвацкіх мелодый вабілі ўсіх. І столькі ў іх было запалу, зухаватасці, што ногі самі ішлі ў скокі.

Праўду гавораць госці з-за бугра: нашы беларускія дзяўчаты самыя прыгожыя ў свеце. Цяжка не згадзіцца з імі,калі бачыш у беларускіх нацыянальных касцюмах сапраўдных прыгажунь — вачэй не адарваць. А як танцуюць, спяваюць, як умеюць з прыроднай грацыяй запрасіць усіх прыняць удзел у свяце!

Удзельнікаў свята станавілася ўсё больш. Людзі сумуюць па народных песнях, танцах, па добрай музыцы. А калі на прыступкі навучальнай установы выйшлі вучоныя мужы — прафесары і дэканы — усе тыя, хто прывівае маладой змене нацыянальныя традыцыі, культуру, адраджае даўно забытае мінулае, раздаліся дружныя апладысменты. Аксакалы культуры былі, як і належыць вучоным мужам, у чорных мантыях і чатырохвуголках. І жадалі яны сваім навучэнцам не здавацца перад цяжкасцямі, высока несці званне работніка культуры.

А прысягалі студэнты на свяшчэнных фаліянтах на поўным сур"ёзе. Гучна несліся словы клятвы: адраджаць беларускую культуру, не здраджваць свайму прызванню.

Як сказаў міністр культуры і друку А.Бутэвіч, самая шчаслівая пара жыцця — гэта студэнцкія гады. Калі маладосць, энергія, прага ведаў робяць цуды. І ўсе мы крыху зайздросцім ім, нашым дзецям. Гэта ім дадзена права ўпісаць у летапіс маладой дзяржавы яркую, незабыўную старонку. Жыве Беларусь, калі ў яе такія нашчадкі!

*Ірына АНДРЭЕВА.*

## СПОРТ-ЭКСПРЭС

● У чатырнаццатым туры чэмпіянату вобласці па футболу зафіксаваны рэкордны вынік. Каманда "Верас" з калгаса "17 верасня" Нясвіжскага раёна з лікам 12:0 перамагла уздзенскі "Нёман". У "Верас" стала 20 ачкоў і другое месца. Лідзіруюць "Белыя Росы" з Першай мінскай птушкафабрыкі, у якіх 22 ачкі.

● Некалькі гадоў назад па ініцыятыве трэнера Капыльскай ДЮСШ, энтузіяста аздараўленчага бегу Віктара Новіка былі праведзены спаборніцтвы па дванаццацігадзіннаму бегу. Потым яны сталі традыцыйнымі і кожны год у Капыль прыязджалі ўдзельнікі не толькі з нашай рэспублікі, але і з Расіі, Украіны, Прыбалтыкі. Сёлета гэтыя спаборніцтвы праведзены на мінскім стадыёне "Дынама". Перамог госць з Літвы Пётр Сілкін — 124 кіламетры. Добрага слова заслугоўвае мінчанін Антон Івашкевіч, якому ідзе шасцідзесяты год. Ён пераадолеў 110 кіламетраў і стаў трэцім прызёрам.

● У Швецыі праходзіў чэмпіянат свету па сучаснаму пяціборству сярод ваеннаслужачых. Беларускія армейцы занялі трэцяе каманднае месца, а іх лідэр — мінчанін Сяргей Герасімовіч заваяваў званне чэмпіёна.

*(Наш. кар.).*



Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету 63923 (індэкс выдання)

"Мінская праўда" Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету 63923 (індэкс выдання)

"МІНСКАЯ ПРАЎДА"

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

